# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК


ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 21 (743) ГОД XV БЕЛАСТОК 24 МАЯ 1970 г. ЦАНА 60 гр.


## БГКТ хроніка

■ 7-га мая адбыўся сход гуртка БГКТ у Ячне (Дуброўскі павет), на якім было выбрана новае праўленне, у склад яго ўвайшлі: Іван Канстанчук — старшыня, Яўгень Сівіцкі — сакратар і Іван Казарэз — скарбнік. Пасля адбылася аўтарская сустрэча з Янам Чыквінам, які чытаў прысутным свае вершы. У сходзе прыняў удзел старшыня ГП Міхась Хмялеўскі і інструктар ГП Анатоль Севасцьянюк.

У гэты ж дзень адбыўся таксама сход і ў Хілімонах. Там таксама члены БГКТ выбралі новае праўленне ў складзе: Лявон Шчэрбач — старшыня, Уладзімір Кудзін — сакратар і Тадэвуш Януцік — скарбнік. Сход закончыўся аўтарскай сустрэчай з празаікам Сакратам Яновічам. Сход адбыўся з удзелам культурна-асветнага кіраўніка ГП Уладзіміра Паўлоўскага.

■ Ян Чыквін 8-га мая чытаў свае вершы з двух нядаўна выдадзеных зборнікаў для актыву гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку.

■ 10-га мая ў сувязі з днямі асветы, кніжкі і друку, Беларускае таварыства ўпершыню прыняло ўдзел у кніжным кірмашы ў Беластоку ў мясцовым парку. Свае кніжкі падпісвалі пакупнікам нашыя літаратары Сакрат Яновіч і Ян Чыквін.

■ У Мілейчыцах 10-га мая адбылася павятовая ўрачыстасць з нагоды 25-ай гадавіны перамогі над фашысцкай Германіяй. Сямяціцкі аддзел БГКТ быў суарганізатарам гэтай урачыстасці.

■ Бельскі аддзел БГКТ 10-га мая арганізаваў агляд драмгурткоў БГКТ. Першае месца здабылі самадзейнікі з Паўлаў, якія падрыхтавалі п'есу Жонкіна «Аповесць аб загінуўшым салдаце».

■ 28 красавіка гайнаўскі аддзел БГКТ, супольна з прэзідыумам ГРН у Палічнай, арганізавалі першамайскую акадэмію. У мастацкай частцы выступілі школьнікі.

■ Нядаўна ў клубе селяніна ў Плёсках (Бельскі павет) члены БГКТ і кіраўніцтва школы арганізавалі акадэмію, прысвечаную 100-годдзю з дня нараджэння Леніна. Даклад Чытала Вераніка Леанюк.



## ◆ МАЦІ ◆

Дзе б ні быў я,
На якіх дарогах,
Пелі сосны,
ці шумеў прыбой, —
Чуў заўжды: гукала,
як малога,
Пасядзець, пагутарыць з табой.

І штодня чакала ліст ад сына,
Пазірала з смуткам і тугой:
— Дзе ты, родны,
І які прыпынак
Зберагае сон трывожны твой?

...Маткі, маткі,
Радасць,
боль і страты —
Іх вы пераносіце без слоў:
Са слязьмі праводзіце вы з хаты,
Са слязьмі частуеце сыноў.

Ды няма, відаць, на ўсёй планеце
У шматлікіх мовах слоў такіх,
Каб маглі суцешыць матак дзеці
Так,
Як маткі суцяшаюць іх.

*Віктар Ракаў*

### 26 МАЯ — ДЗЕНЬ МАЦІ

**«Дзякую, сынок!» — гэтыя словы паўтаралі тысячы матак савецкім салдатам, вызваліўшым родную зямлю ад фашысцкай погані. Закончыўшы вызваленне сваёй Радзімы, Савецкія Узброеныя Сілы працягнулі руку дапамогі народам Еўропы, прыступілі да іх вызвалення ад фашысцкага іга.**



*Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання ў Бельску. На лекцыі рускай мовы, якую вядзе мгр Лідзія Гайдук.*
*Фота Цаф — Сянько*

# Кніжкі для нашых школьнікаў

Звыш 12 тысяч вучняў вывучае ў нас беларускую мову. Яны патрабуюць падручнікаў.

Падручнікі для іх рыхтуе Дзяржаўнае прадпрыемства школьных выданняў у Варшаве, а дакладней кажучы, — рэдакцыя замежных моў гэтага выдавецтва, якая менавіта абслугоўвае школы з няпольскай мовай навучання.

Існуе яна ад 1950 года. Значыць, можна адзначаць юбілей. Гэта таксама юбілей загадчыка гэтай рэдакцыі магістра Эрнеста Расінскага. Ён кіруе ёю ад самага пачатку.

На жаль, загадчыка Расінскага выклікалі тэрмінова ў Міністэрства асветы і вышэйшага школьніцтва, і я не змог перадаць яму вучняў і настаўнікаў нашых шчырыя віншаванні.

У час адсутнасці загадчыка аб працы рэдакцыі замежных моваў, аб супрацоўніцтве з аўтарамі розных падручнікаў расказваюць мне дзве вельмі сімпатычныя пані: намеснік загадчыка рэдакцыі, магістр Марта Баркуўна, якая адзначае сваё першае пяцігоддзе працы ў выдавецтве, і яе сяброўка па працы, магістр Ёлянта Шубская.

— У нас тут, — гаворыць пані Марта, — сапраўдная вавілонская вежа. Выдаем мы падручнікі на беларускай, украінскай, літоўскай, славацкай, грэцкай і македонскай мовах. На нас ускладзены таксама абавязак абслугоўваць вучняў сярэдніх школ, у якіх, як вядома, абавязкова вывучаецца прынамсі адна заходнееўрапейская мова. Дык выдаем мы таксама падручнікі для вывучэння англійскай, нямецкай, французскай і лацінскай моваў.

Сапраўды, вавілонская вежа. А ў рэдакцыі працуе ўсяго 8 чалавек. Як яны разбіраюцца ва ўсім гэтым?

— Перш за ўсё, — паясняе пані Марта, стараемся заахвоціць да супрацоўніцтва няштатных выдатных спецыялістаў у якасці аўтараў або рэцэнзентаў.

Нас, вядома, перш за ўсё цікавяць кніжкі на беларускай мове, прызначаныя для беларускіх дзяцей, якія на Беласточчыне вывучаюць сваю родную мову.

Мае мілыя субяседніцы паясняюць:

— Калі ўзяць пад увагу школы, у якіх вучні вывучаюць мовы нацыянальных меншасцей, дык беларускія падручнікі займаюць у нас першае месца — па колькасці і па тыражу. Першы падручнік на беларускай мове выдалі мы ў 1951 годзе... Была гэта арыфметыка для другога класа пачатковай школы. Тады друкавалі пераважна падручнікі, перакладзеныя з польскай мовы. Зараз рэдакцыя мае ўласных аўтараў. З многімі навязалася ў нас цеснае і пастаяннае супрацоўніцтва. Да іх ліку належаць аўтарскія суполкі: Лідзія і Мікалай Гайдукі, Лідзія Верабей і Люба Раманюк, Віктар Швед і Аляксандр Баршчэўскі. Кожны падручнік, пакуль пойдзе ў друкарню, трапляе ў рукі рэцэнзентаў. Затым падручнік ідзе на ацэнку міністэрскай камісіі і тады толькі — у прадукцыю.

— Ужо зараз, — гаворыць пані Марта, — плануем перавыдаць па-новаму многа старых беларускіх падручнікаў. Пачнем ад падручніка Л. Верабей і Л. Раманюк...

(Працяг на стар. 3)

# НЕБА, У ЗОРЫ ЯСНЫЯ РАСКВЕЧАНА

Гэта песня пра вясну, неба, салаўя, што будзіць нас раніцай да працы. Здаецца, што найлепш бельскія харысты адчуваюць сябе тады, калі спяваюць. Тады загараюцца іх вочы і добра, плаўна плыве іхняя песня па шырокіх раўнінах бельскай зямлі.

Адзін вечар з бельскім хорам у Бельску — гэта замала. Тым больш, калі трэба сядзець ціха некалькі гадзін і слухаць пра цяжкасці грамадскай працы, аб якой гавораць розныя начальнікі.

Там, у канцы доўгага стала перад мной прыгожы твар стройнай жанчыны. Гэта Анна Радзіванюк — харыстка з доўгім стажам працы ў бельскім хоры аддзела Беларускага таварыства. Пра яе расказвалі мне потым, што цешча яе наракае: «убярэцца і пабегла на той хор, хоць бы ў царкву спяваць хадзіла».

Бельскі хор кляраваўся гадамі. Адны адыходзілі, прыходзілі іншыя. Цяпер у хоры 36 чалавек, большасць маладыя дзяўчаты і хлопцы. Ды праз буры і расколы, праз 9-цігадовую гісторыю бельскага хору залатой ніткай утканы імёны верных людзей бельскай песні, так сказаць, яе ветэранаў, калі ўжо гаварыць можна. Тыя ветэраны — гэта Зіна Урублеўская, Вера Раеўская, Анна Прыступ, Еўдакія Навакоўская, спамянутая ўжо Анна Радзіванюк. З мужчынскага роду: Аляксандр Сахарчук, Ананій Ясюк, Уладзімір Рэпко, Аляксандр і Мікалай Раманюкі, Пётр Томчык.

Найпрыгажэйшая хвіліна таго вечара сустрэчы з бельскімі харыстамі прыйшла потым, калі бельскі хор заімправізаваў свой

(Працяг на стар. 3)

(Працяг са стар. 1)

# НЕБА, У ЗОРЫ ЯСНЫЯ РАСКВЕЧАНА

для нас канцэрт. Ішло на поўнач. 11 асоб з хору, якія даязджаюць з Рыбал, Пілік, Дубяжына, Відава, павінны спяшацца, каб злавіць апошні аўтобус ці поезд. Спяшаліся, ды не вельмі. Сам дырыжор хору — малады кіраўнік школы ў Галадах, Аляксандр Лукашук, да сваё хаты таксама меў кіламетры. Але песня харыстам перашкаджала спяшацца. Глядзіш на гэтых людзей, і робіцца цёпла нават сярод ночы халоднай.

Час уцякае, і аўтобус чакаць не будзе. І бачыш іх, як адны сярод ночы ідуць вуліцамі спячага горада і дарогамі Бельшчыны, як вяртаюцца з грамадскай працы. Пачэша сённяшняй ноччу і малады гаспадар, з цікавым імем А н а н і й Ясюк у сваю вёску, у сваю хату ў родных Піліках. І толькі неба, у зоры ясныя расквечана, ідзе з ім. Часам месяц пераганяе, быццам вядзе.

Рэпетыцыі бельскага хору пачынаюцца позна, бо позна канчаюць сваю прафесіянальную працу харысты. Позна канчаюцца і рэпетыцыі. Але яднае гэтых людзей і цягне да сябе песня. Для яе і ў імя яе працуе бельскі беларускі хор — адзіная група людзей, якая ў Бельску спявае. Адзіная група людзей, якая захоўвае найпрыгажэйшыя традыцыі і наймілейшыя рысы гэтай зямлі — яе раздольную салаўіную песню. Умеюць спяваць тут і спяваць хочуць.

Хор бельскі любяць і шануюць у сваім горадзе і павеце. Гэта «наш уласны хор», кажуць у Бельску, каго не спытаеш.

Прывязанасць да хору яго членаў у пастаронніх людзей выклікае часта здзіўленне. Не кожны ў пагоду ці дождж, па слізкіх дарогах пайшоў бы ў 7 гадзін вечара яшчэ спяваць. А 36-асабовая група ўпарта прадаўжае рабіць сваё, і трэба ім толькі жадаць, каб вытрымалі.

З новымі песнямі выступіў хор у Бельску на першамайскай акадэміі. Першую песню заспяваў пра Леніна. Я пачула яе на рэпетыцыі хору і сказаць хачу, што якраз так трэба спяваць песні пра Леніна.

Пачула я і іншую песню ў выкананні бельскага хору. Было гэта ў той вечар, аб якім часта тут успамінаю, у тую, хутчэй, поўнач, калі група дзеячаў з Беластока і мясцовыя сустрэліся з хорам. Стаялі сабе харысты звычайна, хто як, хто рукі залажыў, хто пахіліўся. Ніякага ўстаўлянне ў рады, ніякага напружання. Ананій Ясюк заспяваў «Бабку Еўку». Хор падхапіў, хор лавіў, хор грымеў. Ясюк спяваў і іграў гэтую песню. Цэлую гаму адценняў выдабываў. Чула я вясёлую старую «Бабку Еўку», спяваную па-рознаму, але так, як трэба яе спяваць, заспяваў апоўначы толькі бельскі хор.

Замала аднаго вечара, каб паказаць усю багатую душу бельскага хору. Памыліцца лёгка ў ацэнцы. Людзі — харысты — гаварылі вельмі мала, але іхняя мова іншай была — іхняя песня спадабалася. Не буду думаць, што бельскаму хору зноў могуць пагражаць буры. Цяпер яны сваёй справы трымаюцца салідна. І жадаю ім, каб буры іх міналі. А калі неба спахмурнее, няхай Анна Радзіванюк зацягне сваю «Неба, у зоры ясныя расквечана» — у песні гэтай спакой, ды б'ецца сэрца зямлі.

З архіва бельскага хору пазычыла я здымак (тэхнічна ён не найлепшы) з сустрэчы хору ў дзень 8 сакавіка на свята жанчын. Жанчыны-харысткі былі тады гасцямі, мужчыны-харысты прынялі ролю гаспадароў.

На здымку жанчыны (справа) Марыя Цар, Вера Раеўская, Надзя Леснік, Марыя Сонта, Анна Кубай, Еўдакія Навакоўская, Валя Масальская. Ветлівы мужчына на здымку — сам старшыня калектыву Васіль Антыпюк складае пажаданні.

*Вера Леўчук*



Наш Каляндар

## МЕЧ

Яго ў зямлі знайшоў маёй разлогай,
Аручы прадзедаў вузкі загон.
Вясёлым звонам аказаўся ён,
Калі чапіў канцом майго нарога.
Абцёр пабожна ржу часу благога.
І заблішчаў старых стагоддзяў сон,
І надпіс на клінку, нібы закон, —
«Да рэшты бой!» — зірнуў загадам строга.
І вось няма нясмеласці, разваг
Для сэрца вернага — чужынцам страх.
Радзімы схоў вартуйце, маткі, сёстры!
Я з грамадой іду па шчасце нам.
Мой меч зіхціць непераможны, востры.
Змагуся сам — так сотням перадам.

*Уладзімір Жылка*

## УЛАДЗІМІР ЖЫЛКА

27 мая спаўняецца 70 гадоў з дня нараджэння беларускага паэта Уладзіміра Жылкі. Паэт нарадзіўся ў вёсцы Макашы, Нясвіжскага раёна, у сялянскай сям'і. Скончыў гарадское чатырохкласнае вучылішча, сельскагаспадарчае вучылішча і гісторыка-філалагічны факультэт Пражскага ўніверсітэта. У 1926 г. пераехаў у Мінск, дзе працаваў у рэдакцыях рэспубліканскіх газет.

Першая кніга У. Жылкі «Уяўленне» выйшла ў 1923 г. у Вільні. За ёю выйшла кніга «На ростані» (1924), а ў 1926 г. — зборнік «З палёў Заходняй Беларусі».

Памёр У. Жылка 1 лютага 1933 г. ад цяжкай хваробы.




### ЧАМУ ТРЭБА ВЕДАЦЬ НАРОДНЫЯ ПЕСНІ?

Адказ на пастаўленае ў загалоўку пытанне мы знойдзем у першым раздзеле кніжкі Н. С. Гілевіча «Наша родная песня» (Мінск 1968).

А вось асноўныя палажэнні аўтара:

1. Народная песня мае вялікае пазнавальнае значэнне. У ёй знайшло адбітак гістарычнае мінулае народа, яго думы і спадзяванні, імкненні да волі. Песня адклікалася на радасць і гора ў жыцці селяніна; гаварыла аб агульных праблемах і інтымных перажываннях.

2. Народныя песні з'яўляюцца выключна важным сродкам патрыятычнага, этычнага і эстэтычнага выхавання моладзі. Яны ўслаўляюць самыя прыгожыя і высакародныя пачуцці, асуджаюць несправядлівасць і здраду.

Наступныя раздзелы кнігі прысвечаны ў асноўным доказам названых палажэнняў. Характарызуючы паасобныя класіфікацыйныя прынцыпы (раздзел II), а затым песні абрадавага (раздзел III, IV) і пазаабрадавага (раздзел V, VI) цыклаў, Гілевіч звяртае ўвагу на гісторыю бытавання паасобных жанраў.

Абрадавыя песні каляндарнага цыкла (калядкі, валачобныя песні, песні-вяснянкі, жніўныя песні) ў пачатковай стадыі свайго бытавання былі цесна звязаны з абрадамі і мелі магічны сэнс. Абапіраючыся на веру ў чарадзейную моц слова, заклікальныя калядкі і валачобныя песні выражалі пажаданні добрага ўраджаю на полі, прыбытку ў хляве і на пасецы. Апісанне казачнага дастатку і раскошы гаспадара таксама было не сцвярджэннем фактычнага стану, а толькі своеасаблівым пажаданнем.

З цягам часу абрады страцілі свой магічны сэнс і перайшлі ў народныя звычаі і забавы. Сваё першапачатковае значэнне страцілі і звязаныя з ім песні; часта яны набывалі гумарыстычны характар.

Беларускія жніўныя песні адрозніваюцца ад другіх песень абрадавага цыкла сваёй сацыяльнай накіраванасцю. Усхваляючы і велічаючы працу хлебаробаў, яны адлюстроўваюць яго залежнасць ад прыгонніка — пана, якому часта пасылаюць праклён стомленыя жнеі.

Сямейныя абрадавыя песні (хрысцінныя, вясельныя) таксама гублялі сувязь з абрадамі і часта пераходзілі ў разрад лірычных. З другога боку, лірычныя песні часта спяваліся на хрысцінах і ў час вяселля. Таму правясці выразную мяжу паміж абрадавымі і пазаабрадавымі песнямі фактычна немагчыма.

Найбольш багаты і разнастайны цыкл у беларускім фальклоры ўтвараюць лірычныя песні. Тут знаходзім тэксты, якія ўсхваляюць прыгажосць чыстага кахання, выражаюць сум расставання; песні, што асуджаюць нявернасць і здраду. Асаблівую ўвагу сваёй паэтычнай вобразнасцю звяртаюць песні пра долю замужняй жанчыны; яе жыццё ў чужой сям'і з нялюбым мужам, далёка ад родных і знаёмых. У думках яна перакідаецца зязюляй і ляціць у бацькоўскі дом; аб сваёй горкай долі паведамляе пры дапамозе кінутай на ваду кветкі; па тым, як кветка завяла, маці даведваецца, што дачка «папала ў ліхі замуж».

Вялікае пазнавальнае значэнне маюць песні сацыяльна-бытавыя, сярод якіх асабліва шырока распаўсюджаны песні рэкруцкія і салдацкія. У іх знайшлі адлюстраванне метады набору рэкрутаў у царскую армію. Туды часцей за ўсё траплялі дзеці бедных сялян, а пераважна ўдоў, за якіх не меў хто заступіцца. 25-гадовая служба ў войску была нялёгкая. Таму вельмі распаўсюджанай з'яўляецца скарга салдата, які гінуў на вайне, далёка ад роднага краю і сям'і, і якога аплакваў «чорны воран» або зязюля. Цяжка паранены (забіты) воін пасылае на радзіму каня, каб ён паведаміў маці аб тым, што яе сын «ажаніўся з магілай». Глыбока кранаюць радкі песні-балады пра тое, як на магілу забітага, у выглядзе зязюль або ластавак, прылятае яго маці, сястра і жонка.

Падкрэсліваючы ідэйную і мастацкую вартасць беларускай народнай песні, асаблівую ўвагу звяртае аўтар на патрэбу яе вывучэння ў школе, для патрыятычнага і этычнага выхавання моладзі. Можа варта звярнуць на гэта ўвагу і нашых настаўнікаў?

*М. Чурак*

# ТАТАРСКІЯ БЕЛАГОРЦЫ

Тэрыторыя паміж Нёманам, Бобрай і Нарвай, званая некалі Чорнай Руссю, была каланізавана найпазней. Яшчэ ў XIII стагоддзі тут глуха шумела вялізная пушча, у якой ні сцежак, ні дарожак. Была толькі адна дарога: ад Гродна далінаю Свіслачы, далінаю Супраслі, далінаю Нарвы да Суражы, да Бельска, і далей, у Польшчу, за Буг.

У даліне Свіслачы сяліў перайшоўшых у Літву татараў князь Вітаўт, было гэта ў пачатку XV стагоддзя. Потым сяліліся яны яшчэ. З дакументаў вядома, што каля двухсот год таму назад, у 1782 годзе, у ваколіцы Крынак было 120 татараў. У Белагорцах, званых татарскай вёскаю, было два дварышчы татараў Крычынскіх. У Лішчаной быў двор татара Бараноўскага, а ў Цюмічах двор татара Лося. Былі татарскія двары ў Горцы, Лужанах, а найбольш у Крушынянах, дзе беларусаў тады жыло вельмі мала ў гэтай вёсцы.

Ля кожнай вёскі існаваў могільнік, званы могліцамі, дзе хавалі памёршых. Крынкаўскі парафіяльны касцёл, які ахопліваў велізарную тэрыторыю ад Ялоўскай парафіі па Адэльскую і ад Берастaвіцкай па Сакольскую парафію, забараніў хаваць на тых «могліцах» сваіх парафіян, каб не мяшаліся яны з іншаверцамі. Але нават самая шляхта, пераважна літоўскага або кашубска-паморскага паходжання не вельмі лічылася з гэтаю забаронаю: да парафіяльных могілак у Крынках было часамі па трыццаць і болей кіламетраў. Напрыклад, захаваўся дакумент аб тым, што ў 1794 годзе ў шляхецкіх Шацілах памерла Канстанцыя Мрачкоўская, якую пахавалі на мясцовых шацілаўскіх могліцах. Не было каму перавезці яе ў Крынкі. Відаць, цяжка давялося ў жыцці гэтай жанчыне, перад смерцю яна напісала: «У час шчаслівы ёсць многа прыяцеляў, а калі лёс зменіцца, прыяцеляў няма». Памёр у Шацілах і Андрэй Зелянкевіч, пахававы на могліцах.

Такія вёскі, як Піражкі, Юраўляны, Служкі, Лапічы, Трайглі, Гураны, Саннікі, Вялікія і Малыя Азяраны былі вёскамі каралеўскімі, не прыватнымі. У Клышаўцы быў двор нейкага Асокі, а ў Плянтах быў двор Свідзялоўка, каралеўскі. Упамінаецца яшчэ пра нейкую вёску Асочнікі, недзе ля Навасёлкаўскай дарогі, што паміж Клышаўкаю і Гуранамі. Невядома дзе? Бо Шалінкамі называлася вёска Русакі (шалінкі, па-літоўску зайчыкі). А рэчка Нетупа называлася Лідзянкаю, што на літоўскай мове абазначае прыблізна пустое але забалочанае месца, сухі груд, пустэчы. Калі паявілася назва Нетупа — невядома? Магчыма, Асочнікамі называлася цяперашняя вёска Нетупа? Задачай асочнікаў было сцерагчы Крынкаўскую пушчу. Сасновікам была хата стражніка лесу.

XVIII стагоддзе, час найбольшай паншчыннай самаволі, не рабіў багатымі тарговыя дні чацвер і нядзелю ў Крынках. Відаць, найбольшымі пастаўшчыкамі пладоў на рынак былі, апрача шляхецкіх двароў, таксама немалыя гаспадаркі ўніяцкіх парафій у Юраўлянах, Крынках, Шудзялаве. Сяляне не мелі чаго прадаваць, а ўвесну паяўлялася ў ваколіцы мноства жабракоў. Шырыліся разбоі, аб якіх упамінае хроніка крынкаўскага касцёла. Зрэшты да сёння ёсць ваколіца, званая Разбойнікам. Утапілі там ксяндза: 27 снежня 1762 года ў досыць няясных акалічнасцях памёр святар крынкаўскай царквы Максім Бядуля. Прытым звяртае ўвагу факт, што ўвесь час недзе ад паловы XVIII стагоддзя на Крыншчыне стацыянавалі, відаць, значныя сілы войскаў Вялікага княства Літоўскага, да якога належалі гэтыя тэрыторыі аж да пушчы Васількова. Чаму, менавіта, на Крыншчыне стацыянавалі так значныя літоўскія вайсковыя фармацыі? Магчыма, натыкаемся мы на след нейкага сялянскага бунту... (ся)

(Працяг са стар. 1)

# КНІЖКІ ДЛЯ НАШЫХ ШКОЛЬНІКАЎ

— Таму і не толькі таму, — гаворыць пані Ёлянта, — хацелася б пачуць апінію настаўнікаў, якія непасрэдна карыстаюцца нашымі падручнікамі. Мы балюча адчуваем недахоп кантактаў з настаўніцкім асяроддзем. Хацелася б атрымоўваць ад іх лісты з крытычнымі заўвагамі і канкрэтнымі прапановамі. Мы ахвотна прынялі б удзел у нейкай настаўніцкай нарадзе, каб пачуць іх выказванні аб нашых падручніках.

Дык што ж, сябры настаўнікі, пішыце, запрашайце рэдактараў да сябе. Вось адрас:

Redakcja Języków Obcych, Warszawa, Plac Dąbrowskiego 8.

*В. Рудчык*



*Дыван Алімпіі Ярашэвіч з Янава, Сакольскага павета, на выстаўцы народнага мастацтва Беласточчыны ў беластоцкім музеі.* *Фота Цаф — Сянько*

# ЗДАНЬ „МЕСЯЧНАГА КРАЯВІДУ"

Трапіла мне нядаўна ў рукі кніжка біёлага, даследчыка Белавежскай пушчы Януша Фалінскага пад доўгім загалоўкам: Antropogeniczna roślinność Puszczy Białowieskiej jako wynik synantropizacji naturalnego kompleksu leśnego. Гаворачы звычайнай нашай мовай, у кніжцы гаворыцца аб тым, як на працягу стагоддзяў, у выніку прысутнасці на лясным абшары чалавека, змянялася лясная раслліннасць.

Вядома, што Белавежская пушча, а асабліва Белавежскі нацыянальны запаведнік, лічыцца найбольш першабытным лясным комплексам у Еўропе. З'язджаюцца сюды з усяго свету турысты, каб паглядзець, як выглядае першабытная еўрапейская пушча, ды вучоныя — каб вывучаць кіруючыя гэтай пушчай правы. З кніжкі Фалінскага даведваемся, што колькасць навуковых прац і артыкулаў, напісаных на тэму Белавежскай пушчы, дасягнула імпануючы лік 1800.

Такім чынам, аб Белавежскай пушчы напісана дзесяткі, ці нават сотні тысяч друкаваных старонак. Можна смела ўяўляць, што на свеце ёсць не больш як некалькі асоб, якія б усё гэтае прачыталі, магчыма нават — што на свеце няма аніводнага чалавека, які прачытаў бы ўсё, што напісана аб Белавежскай пушчы. Арыентуюцца ў літаратуры аб Белавежы толькі нешматлікія спецыялісты, якія прысвячаюць гэтаму вялікую частку свайго жыцця, для звычайных зямных прафанаў застаецца толькі здзіўленне і дакучлівае пытанне: што разумнага можа змяшчацца ў гэтых 1800 вучоных працах аб Белавежскай пушчы? Што прыцягвае вучоных усяго свету да доследаў над гэтым невялікім кутом Беласточчыны?

Заглянем тады да кніжкі Януша Фалінскага, каб пашукаць адказу на гэтае пытанне. З кніжкі даведваемся, што Белавежская пушча не такая ўжо першабытная. 22,5% яе раслліннасці — гэта раслліннасць ёй чужая, занесеная сюды дзейнасцю чалавека. Аўтар падлічыў таксама, што ў пушчы існуе каля 100 лясных комплексаў, пры чым 76 з іх — заражаныя раслліннасцю, прынесенай сюды чалавекам, а 24 — захавалі дагэтуль першабытны характар. Раслліннасць, якая спадарожнічае дзейнасці чалавека, называецца ў навуковай мове антрапагенічнай. Гэта перш за ўсё featureрознага роду пустазелле, якое спадарожнічае чалавеку разам з сельскагаспадарчымі культурамі: збожжам, ільном, бульбай і г.д. Гэта таксама рознага роду раслліннасць, якая выступае на месцах працы чалавека: на дарогах, межах, чыгуначных адхонах, пры платах, хатах, на развалінах і г.д. Раслліннасць гэтая мае касмапалітычны характар: выступае яна ўсюды там, дзе паяўляецца дзейнасць чалавека.

Гэты працэс аўтар называе сінантрапізацыяй. Белавежская пушча знаходзіцца пакуль што ў пачатку гэтага працэсу (там толькі 22,5% працэнта антрапалагічнай раслліннасці і 76% лясных комплексаў, заражаных гэтай раслліннасцю). Адсюль зацікаўленне вучоных, якія хочуць ведаць, ад чаго пачынаецца знішчэнне прыроды чалавекам. Наступнымі этапамі будзе поўнае апанаванне лясных комплексаў антрапалагічнай раслліннасці (пустазелле, верас, пралескі, чароты і г.д), а завяршэннем працэса «сінантрапізацыі» з'яўляецца знішчэнне і гэтай раслліннасці ды сфарміраванне біялагічна мёртвага краявіду высокапрамысловых раёнаў, гэтак званага «месячнага краявіду».

Гэта можа гучаць як дурны жарт. Паўсюдна вядома, што маем Белавежскі пушчанскі запаведнік, у якім чалавеку нельга нічога ні папраўляць ні нішчыць і які застацца мае на векі вечныя фрагментам першабытнай, некранутай чалавекам пушчы. Гэта аднак наіўнасць. З кніжкі Фалінскага вынікае, што лёс запаведніка нядоўгі. Гаспадарчая дзейнасць чалавека, як хаця б масавае адвадненне палёў дарогай меліярацыі знішчыць неўзабаве кліматычную і біоцэнатычную раўнавагу пушчы, знішчыць астаткі яе першабытнасці.

Рэч зусім зразумелая, што ніхто з гаспадарчага кіраўніцтва Беласточчыны не чытаў спамянутых 1800 прац аб Белавежскай пушчы. Было б рэччу звычайнай, калі б аказалася, што ніхто не чытаў нават апошняй працы Януша Фалінскага. Дрэнна толькі, што ў балансах нашых дасягненняў, у падліках вынікаў гаспадарчай дзейнасці мы не ўлічваем страт, якія наносім Белавежскай пушчы. Не думаю, каб такі ўлік мог змяніць напрамкі гаспадарчага развіцця Гайнаўшчыны, але рабіць яго неабходна, бо без яго планавая гаспадарка не можа быць сапраўды планавай.

*Ул. Паўлючук*



Фота Цаф — Сянько

# ЧЫН БУДУЧЫХ НАСТАЎНІКАЎ

Педагагічны ліцэй у Бельску налічвае ў гэтым годзе 73 вучняў у двух паралельных класах. Вучні ліквідуючагася ў гэтым годзе педліцэя прынялі на сябе шматлікія абавязацельствы і чыны з нагоды слаўных гадавін 100-годдзя Леніна, 1 Мая і Дня перамогі.

Пяцьдзесят пяць дзяўчат пятых класаў педліцэя пашылі в'етнамскім дзецям каляровыя сукенкі і іншыя ўборы, якія выслалі ў В'етнамскае пасольства ў Варшаве. Матэрыял на ўборы закупіў бацькоўскі камітэт педліцэя. Апрача таго, нягледзячы на перадматуральны перыяд вучні педліцэя абавязаліся працаваць пры пабудове спартыўнага стадыёна па 6 гадзін кожны. (ак)

# БЛЫТАНЫЯ СЦЕЖКІ ГАСПАДАРСКАЙ ПРАФЕСІІ

Як свет светам, гаспадаранне ніколі не было прафесіяй. Праўда, гаспадарскія сыны маглі вучыцца прафесіі — чаму не. Іншоў такі да каваля, шаўца ці столяра ды вучыўся свайму «фаху». Але гаспадарка ніколі не была «фахам», і каб жыць з яе ды працаваць на ёй, не трэба было нідзе вучыцца. Хапала толькі рабіць больш-менш тое, што рабіў бацька ды дзед і што робяць суседзі.

Так было да нядаўна. Зараз аднак гаворыцца, што праца на гаспадарцы таксама становіцца прафесіяй, ці, як у нас кажуць, «фахам». І прафесіяй не абы якой, але годнай і шанаванай. Прафесіяй, якая дазволіць гаспадарам пазбыцца спрадвечнага комплексу ніжэйшасці перад людзьмі іншых прафесій, ды адчуць сваю важнасць і важнасць сваёй працы. Каб гэта аднак сталася, трэба нам некалькіх рэчаў, сярод якіх найважнейшая бадай што — адукацыя гаспадароў. Такім чынам, значэнне сельскагаспадарчай адукацыі не толькі ў тым, што дазваляе яна хутчэй нашым гаспадарам павышаць плёны з гектара, але ў тым, што стварае яна новую грамадскую з'яву — стабілізацыю сялянства як фактычнай прафесіянальнай групы.

Аднак працэс гэты не такі просты і лёгкі, як бы магло здавацца на першы погляд. Можна гэта падмацаваць прыкладамі з Бельскага павета. На тэрыторыі павета існавала ў гэтым навучальным годзе 38 гурткоў сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. Заданне гэтых гурткоў — падрыхтоўваць вясковую моладзь да працы на гаспадарцы шляхам самаадукацыі пры некаторай дапамозе аграномаў. 38 гурткоў — гэта зусім не многа, як на цэлы павет, але і аб тых толькам не вядома, ці існуюць яны ў сапраўднасці, ці толькі «на паперы» і ці працуюць яны так, як трэба.

Сумненні гэтыя насоўваюцца пры разглядзе вынікаў экзаменаў членаў гэтых гурткоў, якія праведзены былі ў лістападзе мінулага года. Сярод 151 члена гурткоў сельскагаспадарчай падрыхтоўкі да экзаменаў прыступіла толькі 95 асоб. З гэтага ліку вельмі добрую ацэнку атрымаў толькі 1 удзельнік, добрую — 18, дастатковую — 62 і недастатковую — 14 асоб.

— Бяда ў тым, — тлумачыць старшыня павятовага праўлення Саюза сялянскай моладзі ў Бельску, сябра Войцюк — што няма каму толкам дапамагчы нашай моладзі ў здабыванні сельскагаспадарчай адукацыі. Са свечкаю трэба шукаць кандыдатаў на апекуноў паасобных гурткоў у вёсцы. Таксама няма належнай апекі з боку павятовага праўлення сельскагаспадарчых гурткоў. Ёсць тут нават штатны апякун гурткоў сельскагаспадарчай падрыхтоўкі, але на практыцы займаецца ён усім на свеце, толькі не тым, чым трэба. У выніку бюджэт, прызначаны на дапамогу вучыўшайся моладзі, сумаю ў 300 тысяч злотых, застаецца да гэтай пары амаль зусім не выкарыстаны.

Крыху лепш выглядаюць справы з іншай формай сельскагаспадарчай адукацыі — са школамі сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. Вучоба адбываецца тут сістэматычна і прыносіць яна значна лепшыя вынікі. Але школ гэтых у павеце няшмат і колькасць іх змяншаецца. У мінулым навучальным годзе дзейнічала 6 школ, у гэтым — толькі 4.

Многія маладыя людзі, якія скончылі 2-гадовыя школы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі, пачалі вучобу ў завочным сельскагаспадарчым тэхнікуме. Варта гэта пахвалы і падтрымкі. Сельскагаспадарчыя гурткі маюць абавязак дапамагаць гэтым людзям у форме звароту коштаў падарожжа ці нават стыпендыяў. Але абавязку гэтага ў адносінах да здольнай і ахвотнай да навукі моладзі чамусьці не рэалізуюць.

Аказваецца, што з сельскагаспадарчай адукацыяй нашай моладзі не найлепш, калі не зусім ужо дрэнна. Павінны на гэта звярнуць большую ўвагу сельскагаспадарчыя гурткі і мясцовыя ўлады. Сельскагаспадарчая адукацыя моладзі павінна стацца істотным элементам сельскагаспадарчай палітыкі ў паасобных паветах і грамадах.

*У. Паўлючук*



# КАЛІ ПРАЦУЮЦЬ БЛЁКАВЫЯ КАМІТЭТЫ

Яшчэ некалькі год таму назад дзейнасць блёкавых камітэтаў цяжка было нават заўважыць у рабочай Гайнаўцы. Часцей за ўсё яны звярталі тады ўвагу на чысціню, парадак на панадворках. Многа змянілася ад таго часу. Вялікая заслуга ў гэтым гарадской рады нарадовай, якая, убачыўшы ў гэтых камітэтах блізкага саюзніка, маючага вялікія магчымасці, пачала апекавацца і кантраляваць гэты паўсюдны грамадскі рух, пачала папіраць яго дзейнасць у штогадовых і квартальных планах працы.

Галоўнай задачай працы камітэтаў з'яўляецца арганізаванне працы грамадскасці пры выкананні гаспадарчых планаў у горадзе. Гэтыя планы прадугледжваюць паляпшэнне жыллёвых умоў жыхароў Гайнаўшчыны, а таксама паляпшэнне знешняга выгляду паасобных кварталаў. Гэтым мэтам былі падначалены грамадскія чыны гайнаўчан і іх удзел у конкурсе чыстаты і эстэтыкі. У гэтых адносінах мінулыя гады не былі змарнаваны; наадварот, яны з'явіліся доказам вялікага патрыятызму жыхароў Гайнаўкі.

## НЕКАЛЬКІ ПРЫКЛАДАЎ

На прыкладзе некалькіх камітэтаў можна было б прааналізаваць іх працу. Напрыклад, камітэт № 13, які ахоплівае кварталы Горнага. Яшчэ зусім нядаўна з гэтага занядбанага прыгарада бесперапынна паступалі ў прэзідыум МРН дзесяткі розных прапаноў. Людзі дабіваліся, каб асвятліць вуліцу, каб прывесці ў парадак дарогу, каб пабудаваць супрацьпажарны басейн, каб адкрыць магазін ці клуб селяніна.

Спачатку тутэйшы камітэт пад кіраўніцтвам актыўнага раднага МРН Анатоля Саевіча на некалькіх чарговых сходах цярпліва растлумачваў жыхарам, што такі немалы горад, як Гайнаўка, мае сотні патрэб, што адна гарадская рада, без дапамогі жыхароў, не зможа ўсяго гэтага выканаць.

Людзі зразумелі, і вакол камітэтаў пачало аб'ядноўвацца ўсё больш ахвотных да грамадскай працы. Спачатку ўзяліся будаваць магазін. Жыхары горада грамадскім чынам навазілі жвіру, будаўнічы матэрыял, зрабілі фундаменты. І сёння гэты квартал мае прыгожы магазін. Грамадскім чынам быў пабудаваны супрацьпажарны басейн, а таксама прыведзена ў парадак вуліца. Быў створаны грамадскі камітэт будовы школы. Яшчэ да нядаўна школа на вуліцы Горнай знаходзілася ў цесным, неадпаведным памяшканні. У гэтых надзвычай прымітыўных умовах вучылася больш 60-ці дзяцей. І вось па ініцыятыве блёкавага камітэта было вырашана пабудаваць на вуліцы Горнай новую школу грамадскім чынам. Прэзідыум МРН, бачачы добрыя намеры жыхароў квартала, прызначыў для школы адпаведны будынак, які трэба было толькі адпаведна да патрэб дастасаваць. Працаваць пачалі ў 1969 годзе. Людзі з вуліцы Горнай не шкадавалі сіл. 20 лютага г.г. адбылося ўрачыстае адкрыццё школы, разлічанай больш чым на 100 месц.

Камітэт № 9 у аседлі Леніна мае таксама вялікія дасягненні. Грамадскім чынам пабудавана тут для моладзі гэтага квартала спартыўная пляцоўка.

Дзякуючы добрай працы блёкавых камітэтаў горад няспынна ўпарадкоўваецца і ўпрыгожваецца. Для дзяцей і моладзі адкрыта некалькі святліц.

## ДАПАМОГА З ПРАДПРЫЕМСТВАЎ

Блёкавым камітэтам не пад сілу аднак выканаць усё тое, на што б яны мелі ахвоту. Рукі, ахвотныя да працы, ёсць, але ж гэта яшчэ не ўсё. Патрэбныя матэрыялы, абсталяванне, сродкі транспарту. МРН стараецца іх адпаведна забяспечыць, аднак не можа зрабіць гэтага поўнасцю, паколькі камітэтаў больш 16, ды развіваюць яны сваю дзейнасць у напрамку грамадскіх чынаў усё шырэй.

Таму такім важным з'яўляецца тое, што некаторыя гайнаўскія прадпрыемствы канкрэтна дапамагаюць блёкавым камітэтам. Так, напрыклад, прадпрыемства драўніннай прамысловасці дастаўляе бясплатна жужаль, што дазволіць паменшыць паверхню многіх дарог у квартале Марыі Канапніцкай. Прадпрыемства сухой дыстыляцыі драўніны выконвае грамадскім чынам з непатрэбных адпадаў качэлі, каруселі і г.д., абсталёўвае ўсё больш пляцаў забаў і гульняў на панадворках.

## РАМОНТЫ

Блёкавыя камітэты клапоцяцца ўсё больш аб рамонтах у жылых будынках. Яны пастаянна маюць кантакт з адміністрацыяй жылых дамоў, якой паведамляюць, калі рамонты зацягваюцца, калі заўважаюць п'янства сярод рабочых, або марнаванне матэрыялаў і г.д.




Папярэднім разам пазнаёмілі мы чытачоў з выказваннямі сакратара па сельскагаспадарчых справах Ваяводскага камітэта партыі ў Беластоку, тав. Станіслава Кудлы пра агульныя справы сельскай гаспадаркі Беласточчыны. Асаблівую ўвагу звярнуў тады таварыш сакратар на паспяховае і неадкладнае ажыццяўленне праграмы прымянення мінеральных угнаенняў.

Сёння прапануем паслухаць яго заўвагі пра жывёлагадоўлю.

— Жывёлагадоўля, — гаворыць сакратар, — асноўнае звяно ў сельскагаспадарчых планах Беластоцкага ваяводства на наступную пяцігодку. Менавіта таму, што Беласточчына становіцца зялёным басейнам. Ужо зараз маем звыш 150 тысяч гектараў меліяраваных і загаспадараваных сенажацей.

І што аказваецца? Там, дзе дагэтуль кароўка галадала зімой, цяпер яна не даядае летам. Проста як той асёл з казкі, які з голаду памёр між аўсом і сенам. На змеліяраванай і загаспадаранай сенажаці трава расце па грудзі. Гаспадар глядзіць на яе, разам з травой расце яго радасць і ў галаву яму не прыходзіць, каб пусціць туды, на гэтую сакавітую траву свае красулі. Дзе ж бы! То ж змарнавалі б, патапталі б! Шкада такога дабра! Ды і грэх! Лепш пачакаць да чэрвеня і скасіць. А кароўкі недзе на межах, па корчыках, па прылесках неяк прапасуцца. Так яно ў нас яшчэ зараз бывае. У выніку гэтага можам яшчэ ў чэрвені, або і ў ліпені пабачыць на лугах, або на панадворках поўныя стагі мінулагодняга сена і чараду засушаных кароў на пасбішчы, да пяску вылізаным з травы.

Зімой часта паўтараем: каб толькі да вясны! А там — на зялёную травіцу. І прымушаем бедныя кароўкі вандраваць за кормам па некалькі дзесяткаў кіламетраў кожны дзень. Не прыходзіць гаспадарам у галаву, што гэтая пастаянная бегатня мучыць жывёліну, паглынае неабходную энергію для прадукцыі малака. Калі карова будзе мець удосталь пашы на месцы, тады ёй не захочацца бегаць. Трэба пры тым ведаць, што няма болей карыснага, болей каштоўнага для жывёліны корму, як сакавітая свежая трава. Толькі гэтую траву трэба падрыхтаваць — так, як рыхтуем, скажам, канюшыну ці пшаніцу. Асабліва дбайна ў першую чаргу трэба пасбішча ўгнойваць. У гэтым выпадку, як і ў кожным іншым, трэба дакладна прытрымлівацца парад вясковага агранома. Пры сваіх высокіх якасцях кармавая адзінка, якая знаходзіцца ў свежай траве, у пяць раз таннейшая ад кармавой адзінкі, якая знаходзіцца ў іншых аб'ёмістых пашах.

Зразумела, нельга табуна кароў адразу пусціць на цэлы прастор пасбішча. Тады, сапраўды, каровы больш патопчуць, як з'ядуць. Дык пасбішча найлепш падзяліць на вялікую колькасць кватэр і памалу прапускаць каровы з адной кватэры ў другую. Гэты спосаб вядомы ўсім гаспадарам, толькі не ўсе гаспадары яго прымяняюць — асабліва ў тых вёсках, дзе ўсё яшчэ рагатая жывёла і авечкі пасуцца супольна, цэлай чарадой.

Сёлета вясна пачалася позна. Дык і сенакос хіба крыху адцягнецца. Аднак адкладаць яго аж на канец чэрвеня — а гэта часта здаралася, — нельга. Траву касіць трэба тады, калі яна толькі зацвітае. Маладая сцяблінка травы накапляе шмат розных мінеральных элементаў, якія пасля прападаюць. Нам залежыць на кармавых якасцях сена, а не на яго колькасці.

Самае важнае для нас — гэта гадаваць высокаякаснае быдла. У нашым ваяводстве першаякасных кароў трапляе на скупачныя пункты ледзь 2—2,5 працэнтаў. Сяляне крычаць, што гэта класіфікатары іх ашукоўваюць і заніжаюць класы. Здаралася і такое, але пасля шматлікіх пакаранняў і судовых спраў цяпер здараецца гэта ўжо вельмі рэдка. Найчасцей вінаваты самі гаспадары. Першы клас класіфікатар абавязаны даваць не за тлушч, а за мяса.

Дык трэба адпаведна карміць і даглядаць сваю жывёліну. На бліжэйшыя гады апрацавалі мы дакладны план практычнага абучэння сялян у галіне жывёлаводства. Маем у ваяводстве нейкіх 3600 вёсак. У кожнай ГРН — больш-менш — 10. На пачатак бярэм дзве вёскі і гаспадароў дзелім на 20-30-асабовыя калектывы. Вучобу пачынаем ад пачатку. Нарадзілася цяля — заатэхнік у прысутнасці ўсяго калектыву важыць яго і дакладна вызначае гаспадару, чым карміць і як даглядаць. Таксама ў кожнага іншага селяніна. За тыдзень — праверка і так далей.

Гэтую справу пачынаем ад восені. А зараз яшчэ вясна. Дык трэба пажадаць нашым сялянам спрыяльнага надвор'я і добрых ураджаяў.

*М. Нурэцкі*

## УЗНАГАРОДЫ ДЛЯ АШЧАДНЫХ

У пачатку гэтага школьнага года ПКО наладзіла конкурс для школьнай моладзі. Праходзіў ён пад лозунгам: «Сёння ашчаджаю ў СКО, заўтра ў ПКО». Трэба было скласці ў школьную ашчадную касу нейкую суму грошай і не кранаць яе на працягу ўсяго конкурсу.

У конкурсе прыняло ўдзел 276 школ і 2 гарцэрскія дружыны. Пасля падсумавання вынікаў найбольш ашчаднай аказалася пачатковая школа ў вёсцы Кляшчэва ў Алецкім павеце, якой была прызнана І узнагарода: таварны бон вартасцю ў 3000 злотых. ІІ узнагароду — таварны бон на 2500 зл. — заваявала пачатковая школа № 13 у Беластоку, ІІІ узнагарода — таварны бон на 2000 зл. — прыпала пачатковай школе ў Алексіне, Бельскі павет, а IV узнагарода — таварны бон на 1500 зл. — павандравала ў пачатковую школу № 5 у Гайнаўцы. Апрача гэтага, для 6-ці школ, сярод якіх апынулася пачатковая школа з Грабаўца на Гайнаўшчыне, былі прызначаны таварныя боны па 1000 зл. 20 самых актыўных апекуноў школьных ашчадных кас атрымала ад ПКО спецыяльныя ўзнагароды ў выглядзе таварных бонаў.

Прывіванне прывычкі ашчаджання — гэта важная справа ў працэсе выхавання дзіцяці. Ашчаднасць вучыць гаспадарлівасці. Таму гэты конкурс варта ператварыць у пастаяннае мерапрыемства. (вр)

У многіх будынках пасля заканчэння рамонту жыхары прысутнічаюць пры прыёме адрамантаваных кватэр. Дзякуючы востраму грамадскаму кантролю, можна выявіць даволі многа недахопаў, прапушчаных камісій з адміністрацыі жылых дамоў (АДМ).

Па ініцыятыве блёкавых камітэтаў развіваецца ў Гайнаўцы грамадская дапамога пры рамонтах. Жыхары дапамагаюць рабочым пры нефаховай рабоце, дастаўляюць матэрыялы на месца рамонту, упарадкоўваюць панадворкі пасля заканчэння працы.

У Гайнаўцы бачаць і разумеюць працу дзесяткаў грамадскіх дзеячаў, якія аддаюць свае сілы на карысць горада і яго жыхароў. Больш дзесяці чалавек з іх атрымала ганаровыя дыпломы. Многія атрымалі дзяржаўныя ўзнагароды. Прэзідыум МРН прызначыў у мінулым годзе на ўзнагароды для актывістаў блёкавых камітэтаў 10 тысяч злотых.

Блёкавыя камітэты не забываюць таксама аб штодзённых справах сваіх жыхароў. Сямейныя клопаты, суседскія сваркі, дрэнныя паводзіны моладзі, аварыі тэхнічнага абсталявання, — з рознымі праблемамі сустракаюцца яны. Дапамагаюць кожнаму, хто гэтага патрабуе. Часта хопіць крыху сэрца і звычайнай добразычлівасці.

*Кастусь Ляшчынскі*
старшыня прэзідыума МРН
у Гайнаўцы



*У Беларускім клубе ў Беластоку. Анатоль Мартыновіч — старшыня сямяціцкага аддзела БГКТ — ля вітрыны выдавецтваў ГП БГКТ.*
*Фота Цаф — Сянько*

## КЛОПАТЫ І РАДАСЦІ БЕЛЬСКІХ ГАРЦЭРАЎ

Недалёка ўжо канец навучальнага года, а за ім і пачатак канікул, лагеры, паходы.

Бельскія гарцэры ўжо з пачаткаў вясны рухтуюцца да лагернага сезона. А з падрыхтоўкай гэтай звязана нямала сур'ёзных і клапатлівых спраў.

Галоўная патрэба бельскай камэнды гуфца — гэта добраўпарадкаваная сталая база лагера.

Ужо некалькі гадоў бельскі павятовы лагер разбівае свае палаткі ў сасновым лесе над Нарвай каля вёскі Самулкі. Ужо некалькі гадоў гаворыцца аб пабудове там сталай кухні і склада, аб паляпшэнні санітарных умоў для адпачываючых.

Сёлета ранняй вясной сабралася павятовая рада сяброў гарцэрства, у склад якой уваходзяць І сакратар ПК ПАРП Ю. Пяхоўскі, старшыня прэзідыума павятовай рады Л. Пэрэк, дырэктар будаўнічага прадпрыемства М. Віслоўскі, кіраўнік энергетычнага прадпрыемства Т. Вільгат, школьны інспектар М. Татарчук і камендант гуфца ЗГП Я. Зіневіч.

На пасяджэнні абмяркоўвалася справа пабудовы кухні. Ёсць на гэта ўжо патрэбная дакументацыя, ёсць і грошы — часткова з гарцэрскага фонду, а 190 тыс. зл. дала павятовая рада. За пабудову бярэцца бельскае будаўнічае прадпрыемства, а яго дырэктар — член рады сяброў гарцэрства. Значыць, кухня сёлета будзе.

Вельмі важная справа для лагера — электрыфікацыя. І ў гэтым шмат мог бы дапамагчы аддзел сельскай гаспадаркі і лясніцтва Ваяводскай рады. Хапіла б толькі перанесці запланаваную электрыфікацыю надлясніцтва Віктожын з 1971 на 1970 год. Усё астатняе зрабілі б самі бяльчане. Працаўнікі энергетычнага прадпрыемства абавязаліся грамадскім чынам правесці святло ад Віктожына да лагера. А лагер — гэта месца летняга адпачынку больш 400 дзяцей і моладзі, гэта месца падрыхтоўкі каля 1000 гарцэрскіх інструктараў і кіраўнікоў вясковых груп нялагернага лета.

І яшчэ адна важная справа нуртуе камэнду гуфца і раду сяброў гарцэрства.

Ля лагера працякае рака Нарва. Месца тут не вельмі прыдатнае для купання. А тут якраз плануецца ў недалёкай будучыні рэгуляцыя ракі. Дык ці нельга было б у час рэгуляцыі ракі невялікім дадатковым укладам грошай зрабіць для лагера спецыяльнае месца для купання? Гарцэры, рада сяброў гарцэрства, 51 прадпрыемства Бельшчыны, якія запрапанавалі сваю дапамогу гарцэрам, ахвотна далучацца сваёй працай і нават укладам грошай. Толькі б бельскі павятовы лагер меў добрае, бяспечнае месца для купання і навукі плавання для моладзі.

Да просьбы бельскіх сяброў гарцэрства, звернутай у адрас аддзела сельскай гаспадаркі і лясніцтва, далучаемся і мы. Бо стварэнне добрага, выгаднага і бяспечнага месца для летняга адпачынку дзяцей — гэта, несумненна, першачарговая справа. Адначасова, маючы адпаведныя ўмовы ў сваёй лагернай базе, можна было б уключыцца ў агульнакраёвы абмен месцамі ў лагерах. У мінулым годзе бельскі гуфец атрымаў прапанову ад гарцэраў са Старгарду Шчэцінскага, каб замяніцца месцамі ў лагерах. Калі б можна было прыняць такую прапанову, дзеці з Бельшчыны маглі б адпачываць над морам. Аднак бельскі гуфец не меў сваёй лагернай базы і не мог прыняць удзел у такім абмене месцамі.

З другога боку, трэба падкрэсліць, што бельскі гуфец — адзін з лепшых у ваяводстве. Моладзь Бельшчыны ідзе ў авангардзе гарцэрскай акцыі «Іскра — 70». Шмат ужо зроблена працы грамадскім чынам, а энтузіязм моладзі ўзрастае.

Бельскі гуфец, адзіны ў ваяводстве, бярэ напрамак на шырокую музычную адукацыю. Гарцэрскі духавы аркестр пад кіраўніцтвам Ст. Садліцкага добра вядомы ўжо не толькі ў Бельску. У мінулым годзе арганізаваўся яшчэ адзін аркестр — у беларускім ліцэі. Цяпер у гэтым жа ліцэі арганізуецца хор. Бельская камэнда гуфца, улічваючы спецыфіку свайго рэгіёну, настаўляецца таксама ў сваёй музычнай праграме і на беларускі фальклор. Для мастацкіх гарцэрскіх калектываў будзе асобна, у жніўні, арганізаваны падрыхтоўча-адпачынковы лагер. А на пачатак новага навучальнага года мастацкія гарцэрскія калектывы Бельшчыны будуць у поўні сваіх сіл і гатовыя да новых канцэртаў.

*Я. Чэрнякевіч*



*Вярнуўся да свайго гнязда.*
*Фота Цаф — Сянько.*

## ДУБРОЎСКІ ДЭФІЦЫТ

Сельскагаспадарчыя гурткі ў Дуброўскім павеце ўсё яшчэ, як гаворыцца, едуць на дэфіцыце. За мінулы год дэфіцыт склаў суму чатырохсот тысяч злотых. Галоўнай прычынай дэфіцытаў у дзейнасці сельскагаспадарчых гурткоў з'яўляюцца нядобрай якасці рамонты, якія наводзяць на вялікія кошты, бо кепска рамантаваныя машыны няздольныя да доўгай працы.

Аднак ёсць першыя ластаўкі змен на лепшае ў сітуацыі сельскагаспадарчых гурткоў на Дуброўшчыне. І так, напрыклад, сельскагаспадарчы гурток у Новым Дворы за мінулы год дабіўся сямідзесяці шасці тысяч чыстага даходу — у тым ліку 26 тысяч злотых даходу было атрымана з загаспадаравання аблогаў. Гэты гурток апрацоўвае пяцьдзесят гектараў абложных зямель, пераважна пятага і шостага класаў. Ураджаі на гэтых землях пры рацыянальнай гаспадарцы былі дасягнуты наступныя: жыта — 13 цэнтнераў з аднаго гектара, аўса — 19 цэнтнераў, грэчкі — восем, бульбы — аж сто сорак цэнтнераў з аднаго гектара. У гэтым годзе навадворскі гурток намераны загаспадарыць далейшых пяцьдзесят гектараў абложных зямель. Разам будзе сто гектараў — ладны кавалак гаспадаркі. Разам з тым актыўныя навадворцы намераны пачаць выраб будаўнічых матэрыялаў: трылінкі на будаванне вуліц у сваім мястэчку і ў вёсках, кругі калодзежныя. Будуць выраблаць жужлёвыя пустакі, вельмі добрыя, моцныя і цёплыя, надта прыдатныя да будавання хлявоў, нават жыллёвых будынкаў.

Кіраўніком гэтага рухавага сельскагаспадарчага гуртка ў Новым Дворы з'яўляецца Станіслаў Лабенец, партыйны дзеяч. Да ліку найлепшых трактарыстаў можна залічыць Антка Банецкага, Віктара Гутарскага, Сцяпана Чарапушку. У гуртку дванаццаць машынна-трактарных камплектаў.

Другім сельскагаспадарчым гуртком, які пачынае даваць даход — гэта Ліпск. Там восем машынна-трактарных камплектаў. Гэты гурток за мінулы год даў чыстага даходу дзвесце трыццаць тысяч злотых. Кожны трактар выпрацаваў тут за 1969 год па 1.220 гадзін.

Іншыя гурткі на Дуброўшчыне, як гаварылася ўжо, працуюць з дэфіцытам. І гэты чатырохтысячны дэфіцыт, бадай, немагчыма будзе выраўнаць за гэты год. Снежная зіма парадзіла гразкую вясну, і на поле з трактарам ніяк нельга ўехаць. Лічыцца толькі конная сіла. За веснавы час трактары працавалі ўсяго па некалькі гадзін. У найлепшым выпадку па некалькі дзесяткаў гадзін — там, дзе высокія і сухія палеткі, на пагорках.

Год пачаўся вельмі няўдала.

Выйсцем з гэтай няспрыяльнай сітуацыі павінна быць больш шырокае загаспадарванне абложных зямель, што зрэшты лічыцца фундаментальнай справай у дзейнасці сельскагаспадарчых гурткоў. Ліпскі высокі даход быў дасягнуты ў значнай меры дзякуючы вялікім транспартным паслугам, якія, шчыра кажучы, не павінны быць найважнейшымі ў дзейнасці. Транспартам няхай займаюцца транспартныя фірмы. Ну, але ўрэшце кожная работа добрая, калі дае яна даход... (ся)

## КУТОК ГАСПАДЫНІ

## ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

### АМЛЕТЫ

З надыходам вясны ў многіх гаспадынь на снеданне пераважаюць патравы з яечак. Нічога дзіўнага: вясной яечкі танныя, а разам з тым яны смачныя, каларыйныя і лёгка прысваяльныя.

Адным з найбольш папулярных блюд з яечак з'яўляюцца амлеты.

Найпрасцейшы амлет — гэта амлет з яек, узбітых з смятанай, падсмажаны на масле. Праўда, што такі амлет нялёгка перавярнуць на патэльні, але, калі мы нават і размяшаем яго на патэльні, дык усё роўна атрымаецца пушысты і далікатны, а добры асабліва для дзяцей ды хворых на жалудак. На 4 яечкі трэба ўзяць сталовую лыжку смятаны і крыху солі. Немцы ў такі амлет дадаюць, напрыклад, яшчэ перац, або паліваюць яго падсмажанай курынай пячонкай з соусам.

Калі мы хочам зрабіць больш выквітны амлет, звычайна не дадаем смятаны, каб яго можна было лёгка перавярнуць на патэльні.

Сакрэт амлетаў заключаецца звычайна ў тым, каб адпаведна ўзбіць яечкі. Трэба памятаць, што яечак нельга ўзбіваць відэльцам аж на пену. Смажыць амлет трэба на ідэальна чыстай патэльні. Нельга браць на амлет замнога яек адразу (максімум 5).

Смак рэпрэзентацыйных амлетаў можна радыкальна змяняць, дадаючы да яго розныя іншыя прысмакі.

Вясной у сярэдзіне амлета могуць быць смарчкі. Грыбы гэтыя трэба вельмі дакладна вымыць, загатаваць, адліць ваду; цяпер грыбы трэба пасячы і тушыць у лыжцы тлушчу. Амлет, падсмажаны з аднаго і другога боку, кладзем на плыткай талерцы, гатовыя грыбы кладзем на адной яго палове і прыкрываем другой яго паловай. Амлет з грыбамі гатовы.

Можна ў сярэдзіну амлета палажыць падсмажаную маладую бульбу, пасыпаць яе дробна парэзанай зялёнай цыбулькай і г.д. і г.д. Думаю, што кожнай гаспадыні не забракне цікавых помыслаў пры смажэнні амлета.

Амлет вясною можна смажыць, дадаючы адразу ва ўзбітыя яечкі дробна нарэзаную зяленіну пятрушкі, селеру, цыбулькі і ўкропу.

Летам ці позняй вясной мы можам улажыць у сярэдзіну ўжо пасмажанага амлета сырыя, невялікія, добра вымытыя трускалкі, або суніцы. Такі амлет зверху трэба пасыпаць цукрам. Гэты амлет можна падаць на заканчэнне вытворнага абеду. Можна яго есці як на снеданне, так і на вячэру.

Вясна ў поўным разгары. Трэба выкарыстаць час, калі яечкі сапраўды свежыя і добрыя.

*Гаспадыня*




### ЖЫЦЦЁ ПАД БОМБАМІ

Першыя амерыканскія бомбы пасыпаліся на тэрыторыю Дэмакратычнай Рэспублікі В'етнам у 1964 годзе. А пасля паўтаралася гэта амаль кожны дзень — аж да кастрычніка 1968 года. Звыш 100 тысяч налётаў, сотні тысяч бомб і ракет, а кожная бомба... кожная ракета...

Калі ўявіць, што тэрыторыя ДРВ састаўляе больш менш 150 тысяч квадратных кіламетраў, дык падумайце, колькі амерыканскіх смерцяносных падарункаў прыпала на кожны квадратны кіламетр!

У ДРВ жыве нейкіх 20 мільёнаў чалавек. На галаву кожнага в'етнамца толькі да 1967 года амерыканскія варвары скінулі па 1000 кг узрыўчаткі... Жудасна падумаць.

Урад ЗША ўяўляў сабе, што адным ударам кіне на калені невялікую краіну, што раздушыць яе, бы слон баязлівага зайца, што бомбамі падыктуе свае ўмовы. І пераличыўся. Бомбы рвалі в'етнамскую зямлю, амаль 80% завадскіх будынкаў разбілі яны або зусім, або часткова, рвалі чыгунку і шасейныя дарогі. На дарозе нумар I, якая называецца «Шляхам Хо Шы Міня», трудна знайсці хаця б сто метраў, на якіх не разарвалася б амерыканская бомба. Аднак гэтая важная дарога ніколі не спыніла сваёй службы. У дзень бамбілі яе, а ноччу... з'яўляліся штурмовыя брыгады в'етнамскіх дзяўчат... Нездарма назвалі іх *«стальнымі брыгадамі»*. На іх было ўскладзена галоўнае заданне: забяспечыць умовы для няспыннага руху, і яны гэтае заданне выконвалі паспяхова.

Да адкрытай амерыканскай агрэсіі палавіну свайго нацыянальнага даходу



*Гэтая в'етнамка Ле Тні Най была ўжо двойчы паранена ў час бамбардзіроўкі, аднак не пакінула сваёй лодкі, на якой перавозіць праз рэчку салдат і цывільнае насельніцтва.*

ДРВ чэрпала з прамысловасці. Каб выратаваць гэтае багацце перад амерыканскімі бомбамі, гаспадарчыя дзеячы Дэмакратычнай Рэспублікі В'етнам правялі акцыю *«со тан»:* расфарміравалі сваю прамысловасць па ўсёй краіне. Такім чынам, амерыканцы найчасцей бамбілі пустыя фабрычныя будынкі. У той час паспяхова развівалася мясцовая прамысловасць паасобных раёнаў, безупынна працавалі сельскагаспадарчыя кааператывы.

В'етнамцы не забываюць пра вайну, аднак думаюць аб мірным жыцці. Прамысловая прадукцыя іх дзяржавы на працягу 1969 года павялічылася на звыш 5% у параўнанні з папярэднім годам, шырока разгарнулася спаборніц-



*В'етнамцы пільна глядзяць у неба.*

тва за тое, каб з кожнага гектара рысавага поля сабраць не менш 5-ці цэнтнераў чыстага рысу. Спаборнічаюць між сабою раёны і гміны, кааператывы і брыгады, а нават людзі розных веравызнанняў. У дзяржаўных планах на гэты год прадбачваецца разбудова арашальнай сістэмы, меліярацыя палёў і вышэйшыя пастаўкі штучных угнаенняў. Гэта ў рамках барацьбы за рыс, які тэм называюць *«збожжам нябеснага цара»*. Сам жа «Дзядзька Хо» сказаў: *«Рысавае поле — сёння поле барацьбы»*.

Дык в'етнамцы самаахвярна працуюць і гераічна змагаюцца з агрэсарам. Стары чалавек, бацька чатырох сыноў — салдатаў, калі атрымаў вестку аб смерці аднаго з іх, напісаў лісты да трох астаўшыхся ў жывых і загадаў ім, *«...каб змагаліся так доўга, пакуль апошні агрэсар або загіне або адыдзе з нашай зямлі»*. У жаночай брыгадзе, якая ў вельмі цяжкіх умовах будавала дарогі, пасля 3-х год цяжкай, амаль катаржнай працы, усе дзяўчаты добраахвотна напісалі заяўкі, каб пакінулі іх пры гэтай рабоце яшчэ на адзін год. У прыморскіх вёсках дзеці бегаюць з вострымі бамбукамі. Аднак гэта не гульні. Яны нясуць адказную службу: сочаць за паяўленнем шпіёнаў і іншых незнаёмых амерыканскіх пасланцаў. У раёне 17-тай паралелі, якая раздзяляе В'етнам, паявіліся цэлыя падземныя вёскі, дзе нармальна жывуць людзі, вучацца дзеці, дарослыя праводзяць сходы, а маткі родзяць.

Няма роскашы пад в'етнамскім небам, але няма таксама там голаду, пра які расказваюць старэйшыя людзі. Ёсць затое заўзятасць і стойкая вера ў перамогу.

Варта ведаць, што наша краіна, якую в'етнамцы называюць Ба Лян (што значыць: «Тры Кветкі»), заваявала сабе ў іх сэрцах шчырую прыхільнасць і сімпатыю.

(вр)

## Літаратурныя гульні

### ЧАТЫРЫ ТВОРЫ

Па дадзеных урыўках успомніце назвы твораў і ўпішыце іх у клеткі па адной літары. У выніку ў вертыкальным слупку, абведзеным тлустым шрыфтам, вы прачытаеце прозвішча аўтара. Прышліце нам прачытанае прозвішча.

Адказы просім прысылаць на наш адрас: Redakcja tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Wesołowskiego 1 do 4.VI.1970 r.

Сярод тых хто прышле правільныя адказы, разлясуем кніжныя ўзнагароды.

1. І днём і ноччу
Шуміць Паронец,
Блакітнай хваляй
Б'е ў бераг стромы,
Гранітнай галькай
Грыміць і звоніць,
Па турнях скача
З вясёлым громам.

2. Мы ведаем ваш дзіўны край:
Грунвальды векавечнай славы,
І полымя, якім гарэць
Руіны сённяшняй Варшавы,...

3. — Што ж не кланяешся мне? —
Грозна Леў спытаў.
— Ах, даруй мне, — Конь стары
Сумна адказаў.

4. Калісь Кастусём яго звалі
ў Мастаўлянах.
У Гродзеншчыне клікалі Світкай
сяляне,
З-пад сіняга Буга па горны Уральскі
стром
Цар ахрысціў яго — Бунтаўшчыком.

| | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 1 | | | | | | | | | | | |
| | | | | | 2 | | | | | | | | | | | |
| | | | | 3 | | | | | | | | | | | | |
| 4 | | | | | | | | | | | | | | | | |




... К. Міцкевіч (Якуб Колас) выступаў не толькі пад агульнавядомымі псеўданімамі Тарас Гушча і Якуб Колас. Вывучэнне прозы дакастрычніцкага перыяду дазволіла ўстанавіць, што ён карыстаўся і наступнымі: Тамаш Булава, Агарак, Дзядзька Кастусь, Альбуцкі, К. Лесавік, Андрэй — «сацыяліст», Ганна Крум, Паднёманец, Стары Шут, Дзям'янаў Гуз, Іван Торба, Мікалаевец, Адзінокі, К. М., Т. Г., К., Пятрусь Дзягель.

...у 1928 годзе ў Харкаве быў выдадзены альманах «Нова Білорусь», які знаёміў украінскага чытача з маладой беларускай літаратурай.

...Янка Брыль яшчэ да школы навучыўся чытаць ад роднай маці па-руску, а пасля вучыўся і скончыў польскую школу.

(а-к)

**Чытайце і распаўсюджвайце «Ніву»!**

## Чэрць стагоддзя назад




### У МЫШАЛОЎЦЫ

Што ж нам раскажа пра гэтыя дні Ота Гюншэ?

«Занепакоенасць і нервовасць Гітлера вельмі ўзраслі. Яго ўжо не даводзілася будзіць раніцай. Ахоплены неспакоем, ён сам прачынаўся вельмі рана. Акрамя таго, яму не давалі спаць разрывы снарадаў на перакрыцці бамбасховішча. Пасля таго, як Штумпфегер[1]) рабіў Гітлеру ўколы, а Лінге ўліваў яму кроплі ў вока, ён хадзіў, ледзь цягаючы ногі, па пакоях бамбасховішча. Яго валасы пасівелі яшчэ больш. Ён ператварыўся ў старога. Яму нідзе не сядзелася. З тэлефоннага пакоя ён ішоў у машыннае аддзяленне, дзе знаходзіліся вентылятарныя ўстаноўкі, — раней Гітлер у гэтых памяшканнях ніколі не быў. Затым ён накіроўваўся да скрынкі, дзе ляжаў сабака Блондзі, даставаў сваё любімае шчаня па мянушцы Вольф і спрабаваў гуляць з ім у калідоры бамбасховішча. Гаварыў ён вельмі мала. Пасля абеду ён вельмі часта садзіўся на мяккую лаўку, што стаяла ў прыёмнай. Да яго далучаліся Борман, Бургдорф, Фегелейн, фрау Крысціан, фрэйлен Кругер, а таксама Ева Браун.

У гэтыя дні Ева Браун піла шмат каньяку. Смяялася яна вельмі рэзка, а ў размовах, якія заводзілі галоўным чынам Борман, Фегелейн і фрау Крысціан, прымала ўдзел толькі пасля таго, як хмялела. Усе іншыя таксама беспярэпынна пілі каньяк, шампанскае і гарэлку, не звяртаючы ўвагі на Гітлера. Борман, Бургдорф і Фегелейн сядзелі, бессаромна разваліўшыся ў крэслах, успамінаючы вясёлыя эпізоды з мінулага раскошнага жыцця. Яны стараліся ўцягнуць у свае размовы і Гітлера. Але ён сядзеў абыякава, утаропіўшыся нерухомым позіркам у адну кропку, ці зноў браў Вольфа і істэрычна лашчыў яго.

...21 красавіка Гітлера разбудзілі а палове дзесятай раніцы і паведамілі яму, што руская артылерыя абстрэльвае Берлін і што Бургдорф і іншыя ад'ютанты чакаюць яго ў прыёмнай. Праз дзесяць мінут Гітлер, няголены, паспешліва выйшаў у прыёмную. Ён звычайна галіўся сам. Нават свайму цырульніку Аўгусту Воленгаупту ён не дазваляў галіць сябе, гаворачы, што не церпіць, калі хто-небудзь валаводзіцца з брытвай каля яго горла.

У прыёмнай Гітлера чакалі Бургдорф, Шауб, Бялоў[2]) і Гюншэ.

— Што здарылася? Што за стралянiна і адкуль? — спытаў ён.

Бургдорф далажыў, што цэнтр Берліна абстрэльваецца цяжкай батарэяй рускіх, відаць, з раёна, што на паўночны ўсход ад Цосена, Гітлер збялеў. Ён прамовіў:

— Рускія ўжо так блізка?

...Раніцай 22 красавіка агонь рускай артылерыі зноў узмацніўся. Паступіла данясенне, што цэнтр Берліна абстрэльваецца некалькімі цяжкімі батарэямі.

Снарады рускай артылерыі пачалі часта трапляць у Тыргартэн, а часам і ў паркі міністэрстваў на Вільгельмштрасе. Гітлер быў разбуджаны гулам артылерыйскага абстрэлу а дзесятай гадзіне раніцы.

Апрануўшыся, ён паклікаў Лінге і ўсхвалявана спытаў: «Які гэта калібер стралье?» Каб супакоіць Гітлера, Лінге адказаў, што гэта страляе нямецкая зенітная артылерыя ў Тыргартэне і адзіночныя дальнабойныя гарматы рускіх. Гітлер, паснедаўшы ў сваім кабінеце, пайшоў у спальню, дзе Марэль[3]) зрабіў яму звычайны ўзбуджальны ўкол.

Ваенная нарада была назначана на 12 гадзін. Каля паўдня ў бамбасховішчы Гітлера сабраліся Кейтэль, Іодль, Крэбс, Бургдорф, Буле, Вінтэр, Крысціан, Фос, Фегелейн, Борман, Хевель, Лорэнц, Бялоў, Гюншэ, Іаганмеер, Іон фон Фрайенд і Фрэйтаг фон Ларынгхофен. Гэта была самая кароткая нарада за ўвесь час вайны. У многіх твары былі скажоныя. Гаварылі прыглушанымі галасамі, паўтаралі адно і тое ж пытанне: «Чаму фюрэр усё яшчэ не адважваецца пакінуць Берлін?»

Гітлер выйшаў са сваіх пакояў. Ён згорбіўся яшчэ больш. Лаканічна павітаўшыся з удзельнікамі нарады, ён апусціўся ў крэсла. Крэбс пачаў дакладваць. Ён паведаміў, што на поўдні рускія танкі прарваліся праз Цосен і прайшлі да ўскраіны Берліна. Цяжкія баі ідуць ва ўсходніх і паўночных прадмесцях Берліна. Становішча нямецкіх войск, якія стаяць на Одэры на поўдзень ад Шчэціна, катастрафічнае. Рускія танкавымі атакамі прарвалі нямецкі фронт і глыбока ўкліniліся ў нямецкія пазіцыі.

Гітлер устаў і схіліўся над сталом. Ён пачаў вадзіць па карце дрыжачымі рукамі. Раптам ён выпрастаўся і кінуў каляровыя алоўкі на стол. Ён цяжка дыхаў, твар наліўся крывёю, вочы былі шырока раскрыты. Адступіўшы на крок ад стала, ён закрычаў зрывістым голасам:

— На што гэта падобна! У гэтых умовах я больш не магу камандаваць! Вайна прайграна! Але калі вы, панове, думаеце, што я пакіну Берлін, то вы глыбока памыляецеся! Я лепш пушчу сабе кулю ў лоб!

Усе з жахам уставіліся на яго. Ледзь падняўшы руку і крыкнуўшы: «Дзякую вам, панове!» Гітлер павярнуўся і выйшаў з пакоя.

Удзельнікі нарады акамянелі. Цяпер, значыцца, усё? Гэта — канец? Гюншэ пабег за Гітлерам. У пакоі для нарад

# ЦЯЖКІ ЛЁС

Неяк, гуляючы, я сустрэў старога знаёмага і ледзь пазнаў яго — ён нагадваў здань: запалыя вочы з ліхаманкавым бляскам і сінякамі пад імі, твар бледны, як крэйда.

— Іду ў суд, — дрыжачым і поўным безнадзейнасці голасам адказаў ён на маё пытанне, што з ім.

Мне стала шкада небараку.

— Баішся прыгавору?

Той шырока адкрыў вочы.

— Прыгавору? Ды ён быў бы для мяне выратаваннем! Але я даўно ўжо страціў надзею, што калі-небудзь дачакаюся яго.

Цяпер надышла мая чарга здзіўляцца:

— Дык у чым жа справа?

Дрыжачымі рукамі ён паспрабаваў закурыць:

— Усё пачалося з гэтай злашчаснай вулічнай бойкі...

— Прымаў у ёй удзел? — запытаў я строга.

— Горш, — адказаў субяседнік. — Быў яе сведкам. З таго часу я чалавек скончаны.

Голас яго сарваўся, па шчоках пацяклі слёзы.

— Ужо следства ўзбударажыла — думаў, і мяне ў чымсьці падазраюць. Я па натуры чалавек нервовы, і некалькі бяссонных начэй зусім выбілі мяне з каляіны. Двойчы даводзілася перапыняць водпуск з-за дачы паказанняў. Потым следства, нарэшце, закончылася, і пачалі выклікаць ужо ў суд. І кожны раз, прачакаўшы некалькі гадзін, даведваўся, што слуханне справы адкладваецца — то захварэў адвакат, то хто-небудзь з падсудных прыслаў медыцынскае заключэнне. Справа ў тым, што падсудных некалькі і, мяркуючы па гэтых заключэннях, са здароўем ва ўсіх у іх нядобра. Калі ж, нарэшце, яны пачынаюць адчуваць сябе лепш, захворвае які-небудзь сведка. І вось іду на судовы разбор ужо семнаццаты раз.

— Але ж і ты можаш дастаць медыцынскае заключэнне, — падказаў я яму.

—А што гэта дасць? — горка рассмяяўся ён. — Проста зацягну справу. Мяне можа выратаваць хіба толькі пасведчанне аб смерці.

— Усё абстаіць не так ужо дрэнна, — паспрабаваў я суцешыць яго.

— Не так дрэнна? — адказаў ён з сумнай іроніяй. — На самай справе ўсё значна горш. Пакуль я цягаўся па судах, мяне звольнілі з работы. Дырэктар сказаў: «Адно з двух: або вы будзеце сведчыць, або працаваць». У той жа час сябрукі падсудных пагражаюць мяне пабіць, калі раскажу ўсё, як было. Цяжкі лёс сведкі...

Не знайшоўшы слоў, каб падтрымаць дух няшчаснага, я проста развітаўся з ім і пайшоў далей.

Навучаны чужым вопытам, я стараўся ўжо глядзець у зямлю, каб не стаць выпадкова сведкам якога-небудзь здарэння. Думаў пры гэтым, што добра б стварыць бюро прафесіянальных сведкаў, адпаведна падрыхтаваных і навучаных, якія, рэгулярна атрымліваючы зарплату, сведчылі б у выпадку неабходнасці.

Задумаўшыся над гэтай праблемай, я пачуў раптам ляск зубоў і адчуў, як штосьці тузанула мяне за штаніну.

— Ваш сабака, — закрычаў я прахожаму з павадком у руцэ,— падраў мне штаны!

— Нічога ён не падраў, — запярэчыў той, спакойна гледзячы мне ў вочы.

— Як не падраў?! — абурыўся я і звярнуўся да іншых прахожых: — Вы ж бачылі, як усё было?

Аднак ніхто не збіраўся нічога пацвердзіць. Пазбягаючы маіх позіркаў, усе моўчкі і хутка разыходзіліся.

Вяртаючыся ў падзёртых штанах дадому, я заўважыў нейкі натоўп, з якога ўсе тут жа кінуліся хто куды. Падышоў даведацца, у чым справа. Відовішча было мала прыемнае: некалькі падазроных тыпаў білі майго знаёмага, відаць, за яго паказанні ў судзе.

Я тут жа кінуўся наўцёкі.

*Януш Асенка*

# НІЎКА

— *Як ідзе ваш працэс?..*

### ШТО

— Бачу, што вы не задаволены нашым рэстаранам. Ці што-небудзь падалі перасоленае?

— Так, рахунак.

### Галаваломка

Квадрат падзелены, як гэта відаць на рысунку, на 12 меншых квадратаў. Куды больш складана падзяліць гэту плошчу на 11 квадратаў рознай велічыні. Паспрабуйце гэта зрабіць.

*Адказ на заданне з папярэдняга нумара:*

*Найбольшы лік частак — 15 — знаходзіцца ў шасцікутніку 3, найменшы — 9 — у шасцікутніку 6.*

### НА ПАЛЯВАННІ

Два паляўнічыя натknуліся на свежыя сляды льва.

— Ідзі паглядзі, куды ён пайшоў, — сказаў першы.

— А ты?

— А я пайду ў процілеглы бок, пагляджу, адкуль ён выйшаў.

ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Крыстыны Супрунюк, Галіны Давідзюк і Зіны Якашюк з вёскі Уснаршчына; Валі Андросюк і Лідзіі Аляксеюк з Апакі Вялькай; Галіны Чэшаль з Гарадка каля Беластока змяшчаем песню.

# НІРОРОТАМ

Słowa: Z. Wawrzyniak, Z. Zapert
Muzyka: K. Maga, H. Zomerski

Puka ktoś, więc pytam: kto tam?
Na to słyszę: hipopotam!
Nie otworzę, jestem sama,
boję się hipopotama.
Ależ skądże, ależ co tam,
jestem grzeczny hipopotam.
Ja się boję, że pan kłamie.
Skąd pan jest, hipopotamie?
Prosto z ZOO, straszna słota,
trochę przemarzł hipopotam.
Tere fere, wiem od mamy,
jakie są hipopotamy.

Ach, co robić, nie wiem sama,
boję się hipopotama.
Z drugiej strony, wie kto go tam,
może grzeczny hipopotam...
Może biedak zmarzł na amen?
Ciężko być hipopotamem,
więc go wpuszczę, chyba, co tam,
wszak mnie nie zje hipopotam.
Zaraz już się przekonamy,
jakie są hipopotamy,
zaraz już się przekonamy,
jakie są hipopotamy.

Wszedł i usiadł na kanapie,
nic nie mówi tylko sapie.
A myślałam, że mnie zje,
a on wcale, wcale nie!
Lubi jabłka i marchewkę,
i herbatkę na rozgrzewkę.
Całkiem, całkiem miły zwierz!
Może jeszcze jabłko zjesz?
Teraz mogę wyznać szczerze:
bardzo sympatyczne zwierzę.
ależ tak, ależ tak!
Bardzo sympatyczny ssak.

### НЕ ЧУЛА

Міліцыянер затрымаў жанчынувадзіцеля, якая ехала са скорасцю 100 кіламетраў у гадзіну. Здзіўленая жанчына заявіла:

— Гэтага не можа быць! Я ніколі не чула, каб у гадзіне змяшчалася столькі кіламетраў!

### ПАВАГА

Плуг барану заўсёды паважае:
Яна ж ягоная агрэхі прыкрывае.

*П. Шыбут*

### У ЛЕКАРА

Кіназорка, з'явіўшыся на прыём да ўрача:

— Распрануцца, доктар?

— Не трэба, я толькі ўчора бачыў ваш апошні фільм...

### ДВА АРГАНІЗМЫ

Выкладчык біялогіі задае студэнтам пытанне:

— Назавіце два арганізмы, якія жывуць разам з абаюднай для сябе карысцю.

Больш паловы адказаў было:

— Муж і жонка.

### ПАСЛЯ РАЗЛУКІ

Два мужчыны сустрэліся пасля доўгіх гадоў разлукі. Разгаварыліся.

— А што, твая жонка па-ранейшаму прыгожая?

— Так, толькі цяпер на гэта яна затрачвае процьму часу.

### ЦЯРПЛІВАСЦЬ

У час гутаркі аб узнікненні жыцця на зямлі афіцэр, між іншым, сказаў, што жывёла пераносіць пакуты гэтак сама, як і чалавек. Раптам на твары аднаго з салдат ён заўважыў усмешку.

— Што вы бачыце ў гэтым смешнага?

— Нічога, грамадзянін афіцэр. Я толькі падумаў, як дрэнна адчувае сябе сараканожка, калі на ўсіх яе нагах цесны абутак.

### РАЗМОВА

Аднойчы на прыёме малады чалавек звярнуўся да Бернарда Шоу:

— Дык гэта вы той славуты гумарыст? А ці праўда, што ваш бацька быў кравец?

— Так, — пацвердзіў Шоу.

— А чаму ж вы не сталі краўцом?

— Цяжка сказаць. Лёс, а можа, проста капрыз. Вось, напрыклад, ваш бацька, здаецца, быў джэнтльмен?

— Вядома, — пацвердзіў малады чалавек.

— Чаму ж вы ім не сталі? — запытаўся Шоу.

— *Здарэнне на велагонцы.*

# Курёзы

*Адзін у двух абліччах*

Двух аднолькавых імёнаў у горным племені кічынаў у Паўночнай Бірме не бывае. Праўда, калі нараджаюцца блізняты, ім абодвум даюць адно і тое ж імя. Справа ў тым, што паводле кічынскіх павер'яў, блізняты — гэта адзін чалавек у двух абліччах. Калі дзецям спаўняецца дзевяць гадоў, іх падвяргаюць выпрабаванню. Па тры разы соваюць дзеці рукі ў рыльца збанка з рысам. Адна з рысінак афарбавана ў чырвоны колер. Той з блізнят, які дастане чырвоную рысінку, — сапраўдны. Яму і будзе належаць імя.

А ў менш удалага брата імя не будзе. Яго з гэтага часу будуць зваць «Другі». Проста «Другі». Без імя.

*Выкрадальнікі... кас*

Перад закрыццём стакгольмскага універмага ў аддзяленне «Тэкстыль» увайшлі два мужчыны. Па касцюмах, па фігуры, па выпраўцы іх можна было прыняць за цяжкаатлетаў. «Майстры» падышлі да касы, лёгка паднялі апарат і вынеслі яго на вуліцу, хутка селі ў аўтамабіль і зніклі ў невядомым напрамку.

— Дзе ж каса? — усклікнула прадаўшчыца, жадаючы выбіць чэк.

— Яе панеслі ў рамонт, — падказалі пакупнікі.

— Які рамонт? Яна зусім новая — пляснула рукамі прадаўшчыца.

Злыя языкі сцвярджаюць, што «рамонтная майстэрня» ўсё яшчэ не знойдзена, хаця «атлеты» прыхапілі з сабой ужо не адну касу.

*У абмен на... магілу*

Жыхар заходненямецкага горада Брэмена паведамляе ў газеце «Вэзэр-Курыер»: «Мяняю выкапаную, але не выкарыстаную магілу на муніцыпальным могільніку на гатовы летні касцюм 57-га памеру».

# Між намі

Ён быў пятым колам у калясніцы, але інструкцыі не дазвалялі выкідваць без запаснога кола.